

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*


# Наша слова






**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 44 (1299) 2 ЛІСТАПАДА 2016 г.**


# “ДЗЯДЫ - 2016” у Менску




Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ правяла традыцыйнае шэсце і мітынг з нагоды дня памяці продкаў «Дзяды». Удзельнікі на заклік КХП-БНФ прынеслі з сабой бел-чырвона-белыя сцягі, кветкі і расцяжкі.

Улады далі дазвол на правядзенне акцыі. Удзельнікі сабраліся а 11-й на пляцоўцы каля гадзіннікавага завода «Луч». З 11.30 да 15.00 прайшло шэсце па вуліцах Менска ва ўрочышча Курапаты, дзе адбыўся жалобны мітынг.

У пачатку мітынгу сакратар КХП-БНФ Валеры Буйвал зачытаў ліст Зянона Пазняка ўдзельнікам:

- Лагічнай прычыны для пагрозы [беларускай нацыі] не існуе, але мы маем справу з сярэдневеччам на Усходзе. Усю нашу гісторыю мы баранілі сябе і Еўропу, але гэта скончылася здрадай Еўропы.

Юрась Беленькі заявіў, што ў Расіі ўжо ўстаноўлена 26 помнікаў Сталіну, а значыць, небяспека для Беларусі да гэтых часоў актуальная:

- Пасля рускага слова ідзе руская армія. Калі ты беларус і ты размаўляеш па-расейску, ты страляеш у свой народ, - паўтарыў Беленькі свой даўні тэзіс. Ён заклікаў беларусаў да кансалідацыі.

Мітынг закончыўся ўстаноўкай крыжоў.

***Радыё Свабода.***

# Дзяды ў Свіслачы



Кветкі і знічы пад бел-чырвона - белымі сцягамі ўсклалі ў Свіслачы на магілу Віктара Каліноўскага, да помнікаў Кастусю Каліноўскаму, Рамуальду Траўгуту і наведалі Якушоўку, радавы маёнтак Каліноўскіх, актывісты з розных гарадоў Беларусі.

Традыцыйна патрыёты з розных гарадоў Беларусі сабраліся побач з касцёлам у Свіслачы. Актывісты з Гародні і Менска, Слоніма і Баранавічаў, з Кобрына, Лідчыны, Ваўкавыска арганізавана накіраваліся на могілкі, дзе знаходзіцца магіла Віктара Каліноўскага, старэйшага брата Кастуся Каліноўскага. Так пачынаецца штогод акцыя ўшанавання паўстанцаў 1863 года на Дзяды. Затым калона з бел-чырвона-белымі сцягамі прайшла па цэнтральнай вуліцы Свіслачы да помніка Кастусю Каліноўскаму, які, дарэчы, так і застаецца адзіным помнікам Каліноўскаму ў Беларусі. Гучна гучыць: "Жыве Беларусь!" Прысутны ў Свіслачы старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч зазначыў:

- У Свіслачы такое сакральнае месца, і мне вельмі важна быць тут з людзьмі, якія ўшаноўваюць памяць нашых сапраўдных герояў.

Настрой ва ўсіх прыўзняты, нягледзячы на восеньскае дажджлівае надвор'е.

***Радыё Рацыя.***






# 180 гадоў з дня нараджэння Міхала Андрыёлі



**Міхал Эльвіра АНДРЫЁЛІ (**2 лістапада 1836, Вільня - 23 жніўня 1893, Наленчаў) - мастак (жывапісец і графік) і ілюстратар. Удзельнік паўстання 1863-1864 гадоў.

Бацька Міхала Эльвіра Андрыёлі, італьянец Франчэска Андрыёлі (1794-1861), служыў у арміі Напалеона і, патрапіўшы ў палон да рускіх, пасяліўся ў Вільні. Жывапісец, разьбяр і дойлід, ён працаваў скульптарам (рэстаўраваў скульптуры кафедральнага сабора).

Свайго сына ён адправіў у Маскву вучыцца медыцыне (1855). Але Міхал Эльвіра супраць волі бацькі, услед за сваім сябрам, мастаком Вінцэнтам Сляндзінскім перайшоў у Вучылішча жывапісу і скульптуры Маскоўскага мастацкага таварыства, дзе займаўся пад кіраўніцтвам земляка, мастака Сяргея Заранкі, а таксама вядомага расійскага мастака-перасоўніка Аляксея Саўрасава. У 1857-1859 гадах вучыўся ў імператарскай Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу, затым удасканальваўся ў Акадэміі святога Лукі ў Рыме (1860-1861).

Вярнуўся ў край і ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года, ваяваў у аддзеле Людвіка Нарбута. Пасля паразы паўстання хаваўся ў Вільні, Коўні, Маскве, але быў арыштаваны і пасля суда адпраўлены адбываць заключэнне ў Рыгу. Здолеў выбрацца за мяжу і праз Швецыю і ў Данію з'ехаў у Англію. Асталяваўся ў Лондане, затым перабраўся ў Парыж. На радзіму вярнуўся як эмісар Камітэта польскай эміграцыі, у 1866 у быў схоплены і сасланы ў Вятку. У Вятцы прабыў з 1868 па 1871; жыў у доме Новікавай (цяпер вуліца Валадарскага, 85). Распісваў кафедральны сабор; памочнікам у яго быў будучы вядомы рускі мастак В.М. Васняцоў. У Вятцы Андрыёлі напісаў некалькі партрэтаў (у тым ліку ўладыкі Апалоса).

Памілаваны ў 1871 годзе, у 1872-м Андрыёлі вярнуўся з ссылкі, але яму было забаронена жыць на радзіме, і мастак пасяліўся ў Варшаве. Там працягваў мастацкую адукацыю ў школе Герсана, ілюстраваў часопіс "Klosy" ("Каласы") і "Tygodnik ilustrowany" ("Ілюстраваны штотыднёвік"). У 1883-1886 гадах працаваў у Парыжы. Толькі ў канцы жыцця яму пашчасціла на нейкі час вярнуцца на радзіму. Памёр Андрыёлі ў 1893 годзе ў горадзе Наленчаў (цяпер Люблінскае ваяводства) і там быў пахаваны.

***Вікіпедыя.***

# Генадзю Цыхуну - 80



**Генадзь Апанасавіч ЦЫХУН** (нар. 30 кастрычніка 1936, вёска Кунцаўшчына, Гарадзенскі раён Гарадзенская вобласць) - беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1982). Прафесар. Галоўны навуковы супрацоўнік аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Акадэмік Міжнароднай акадэміі Еўразіі, доктар honoris causa Сафійскага ўніверсітэта (2003), замежны чалец Македонскай акадэміі навук і мастацтваў (2009), сябар Міжнароднага камітэта славістаў.

Скончыў аддзяленне славянскай філалогіі Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці "Філолаг. Выкладчык балгарскай мовы і літаратуры". З 1969 - аспірант кафедры славянскай філалогіі таго ж універсітэта.

У 1961-1963 - аспірант-стажор Сафійскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

З 1958 па 1959 і з 1963 - навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. У 1966 у Ленінградскім універсітэце абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук на тэму "Сінтаксіс займеннікавых клітык у балгарскай і македонскай літаратурнай мове" (пад кіраўніцтвам д.ф.н. праф. Маслава Ю. С.).

З 1968 - старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа. У 1982 абараніў доктарскую дысертацыю "Тыпалагічная праблема балкана-славянскага моўнага арэалу".

З 1991 па 1995 - вучоны сакратар Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (МАБ), у 1995-2000 - віцэ-прэзідэнт МАБ, з 1994 - акадэмік Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, з 1992 - намеснік старшыні Беларускага камітэта славістаў, з 1993 - член Міжнароднага камітэта славістаў (МКС), з 2008 - віцэ-прэзідэнт МКС, старшыня Рады Таварыста "Беларусь - Балгарыя" (з 1992), старшыня Тэрміналагічнай камісіі пры Міністэрстве адукацыі Беларусі (з 1995), узнагароджаны Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі (1996),

З 1994 па 2004 - "візітынг"-прафесар на кафедры беларускай філалогіі ўніверсітэта ў Беластоку.

Агульная колькасць апублікаваных прац - звыш 300.

***Вікіпедыя.***

# Не дай, Божа, каб з хама - ды пан, або чыноўнік,

## ці наколькі можна страціць самапавагу

*У кастрычніку гарадзенскія чыноўнікі ад спорту ў чарговы раз паказалі поўную адсутнасць у іх не толькі нацыянальнай свядомасці і нацыянальнага гонару, а і элементарнай павагі да краіны, дзе яны жывуць, дзе атрымліваюць немалыя зарплаты і не за тое, што нешта робяць, а толькі за тое, што пастаянна шкодзяць Беларусі і беларускасці, пастаянна гадзяць і паскудзяць. Здавалася б, чаго прасцей, правялі вы гэтае двухмоўе, то і выконвайце. Ёсць дзве дзяржаўныя мовы, то і выкарыстоўвайце іх раўнапраўна і паслядоўна, а ў такой далікатнай справе, як зносіны з іншаземцамі, не грэх лішні раз паставіць на першае месца менавіта беларускую мову, каб падкрэсліць нашую асаблівасць і, магчыма, разбудзіць цікавасць у тых жа турыстаў менавіта да Беларусі, а не да Вялікаі Татарыі, якая для многіх замежнікаў пачынаецца на ўсход ад польскай мяжы.*

*Прыдумалі пашпарты турыстаў, дык пастаўце беларускую мову на першае месца. Аж не, беларуская мова для іх не толькі не першая, а і зусім лішняя...*

Начальніку ўпраўлення спорту і турызму
Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта
Андрэйчыку Алегу Яўстаф'евічу
230023, Гродна. вул. Ажэшкі-19

Хільмановіча Уладзіміра Іванавіча,
грамадзяніна Рэспублікі Беларусь

Зварот

4 кастрычніка на афіцыйным інтэрнэт-сайце БЕЛТА з'явілася афіцыйная інфармацыя наступнага зместу:

*"4 кастрычніка, Гароднія /Алена Стасюкевіч - БЕЛТА/. "Пашпарты турыстаў" будуць выдаваць замежным гасцям Гарадзенскай вобласці, паведаміў карэспандэнту БЕЛТА начальнік кіравання спорту і турызму Гарадзенскага аблвыканкама Алег Андрэйчык. Пашпарты будуць уяўляць сабою друкаваныя буклеты, у якіх турысты змогуць знайсці карысную інфармацыю пра рэгіён на рускай, ангельскай і польскай мовах. У іх будуць адрасы гасцініц, сядзібаў, кафэ і рэстаранаў, інфармацыя пра музеі, карысныя інтэрнэт-сайты. "Вандруючы з такім пашпартам, турысты змогуць рабіць адзнакі пры наведванні розных месцаў, атрымліваць зніжкі. Гасцям Гарадзенскай вобласці пачнуць іх выдаваць у снежні". - растлумачыў Алег Андрэйчык".*

http://\\\> \\.helta.l)v/reuions/view.'|):-isp")rta-tui,istov-b"(lut-vvd;i\ at-uostjam-grodncnskoi-"hlasti-213078-2016/

Можна толькі вітаць ідэю з'яўлення такіх нашпартоў-друкаваных буклетаў, якія павінны папулярызаваць турыстычныя аб'екты Гродзеншчыны, даваць карысную інфармацыю гасцям нашага рэгіёна. Аднак, звяртае на сябе ўвагу той факт, што пры выбары моваў буклета праігнаравана дзяржаўная мова Рэспублікі Беларусь - мова тытульнай нацыі - беларуская мова. Выданне такога пашпарта-буклета, у якім не будзе інфармацыйнага тэксту па-беларуску з'яўляецца дыскрэдытацыяй самой ідэі, а таксама прадстаўнікоў дзяржаўнай улады па Гродзенскай вобласці.

Звяртаю вашу ўвагу на тое. што ў сумежных з Гродзеншчынай рэгіёнах, суседніх дзяржавах - Рэспубліцы Польшча і Рэспубліцы Літва - пражывае таксама нямала беларусаў, людзей, якія лічаць беларускчто мову сваёй роднай. Друк і выдаваннс турыстычных пашпартоў, у якіх не будзе тэксту па-беларуску, выкліча ў іх недаўменне, а многіх нават абразіць.

У звязку з вышэйсказаным звяртаюся да вас з прапановай падрыхтаваць выданне такіх турыстычных пашпартоў не на трох, а на чатырох мовах, з абавязковым тэкстам і на дзяржаўнай беларускай мове. Змяшчэнне інфармацыйнага тэксту таксама на беларускай мове будзе спрыяць цікавасці замежных турыстаў да мовы тытульнай нацыі нашай краіны.

Звяртаюся да вас з адкрытым лістом і зваротам праз медыі і прашу даць пісьмовы афіцыйны адказ у адведзены заканадаўствам Рэспублікі Беларусь тэрмін.

07.10.2016.

Уладзімір Хільмановіч.

---


Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт
УПРАЎЛЕННЕ СПОРТУ І ТУРЫЗМУ
вул. Ажэшкі, 19, 230023, г. Гродна,
тэл./факс (0152) 77 28 77
эл. пошта: office@oblsport.grodno.by

Гродненский областной исполнительный комитет
УПРАВЛЕНИЕ СПОРТА И ТУРИЗМА
ул. Ожешко, 19, 230023, г. Гродно,
тел./факс (0152) 77 28 77
эл. почта: office@oblsport.grodno.by

20.10.2016 № 01-41/47

Хільмановічу У.І.
г. Гродна

Аб разглядзе звароту

Паважаны Уладзімір Іванавіч!

Кіраванне спорту і турызму Гарадзенскага аблвыканкама разгледзела Ваш зварот па выпуску пашпарта турыста на беларускай мове і паведамляе наступнае.

Пашпарты турыста будуць выдавацца на трох мовах: рускай, ангельскай і польскай. На рускай - для рускамоўных турыстаў, на польскай - для турыстаў з Рэспублікі Польшча, бо грамадзяне гэтых краін займаюць найвялікшую долю ў структуры турыстычных прыбыццяў у Гарадзенскую вобласць. Ангельская ж мова з'яўляецца адной з сусветных моў.

З прычыны таго, што пашпарты турыста, якія выдаюцца, не прызначаны для ўнутранага карыстання ў Рэспубліцы Беларусь, кіраванне спорту і турызму Гарадзенскага аблвыканкама лічыць нямэтазгодным выданне пашпарта турыста на беларускай мове.

Намеснік начальніка Т.А. Лідзяева.

*(Пераклад з расейскай мовы, бо "кіраванне спорту і турызму Гарадзенскага аблвыканкама лічыць нямэтазгодным" адказваць на мове заяўніка.)*



**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак № 3015741233011 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ Беліпвестбанк", г. Мінска, код 739*

**31 кастрычніка 2016 г. № 74**

Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта
Рэспублікі Беларусь
А. М. Косінцу
вул. К.Маркса, 38
г. Мінск

Аб выкарыстанні дзяржаўнай беларускай мовы
ў пашпарце турыста і інфармацыйных абвестках
на дзяржаўнай мяжы Беларусі

Шаноўны Аляксандр Мікалаевіч!

Да нас неаднаразова звяртаюцца сябры ТБМ з г. Гродна, якія звяртаюць увагу на тое, што ў пашпартах-буклетах для замежных турыстаў, якія без візы могуць наведваць Гродзенскую вобласць, адсутнічае дзяржаўная беларуская мова. Гэта ў першую чаргу выклікае вялікае абурэнне ў беларусаў, грамадзян Польшчы, якія ўжо пачалі наведваць нашу краіну.

Звароты нашых актывістаў да мясцовых чыноўнікаў жаданага выніку не далі.

Акрамя таго, са сродкаў масавай інфармацыі мы даведаліся, што на дзяржаўнай мяжы, праз якую праходзіць Аўгустоўскі канал, з'явіліся інфармацыйныя шыльды для турыстаў, дзе таксама адсутнічае дзяржаўная беларуская мова, а ў тэкстах на польскай мове ёсць памылкі.

У нас складваецца ўражанне, што мясцовыя ўлады не падзяляюць наступнае выказванне Кіраўніка нашай дзяржавы, якое ён нядаўна агучыў перад дэпутатамі беларускага парламента: "Мы - нацыя, а ў кожнай нацыі ёсць свае прыкметы. І галоўнае акрамя тэрытарыяльнай цэласнасці і суверэннасці - гэта мова. Чаму мы павінны адмовіцца ад беларускай мовы?"

У сувязі з гэтым просім тэрмінова выправіць адзначаныя недахопы.

Дадатак: на 2-х ст.

З павагай,

Старшыня ТБМ А.Трусаў.

---




*... пакуль ішла перапіска Уладзіміра Хільмановіча з гарадзенскімі чыноўнікамі, пакуль старшыня ТБМ пісаў ліст у Адміністрацыю Прэзідэнта, самі чыноўнікі не спалі, яны ўжо на тых жа трох мовах і без беларускай інфармацыйных шчытоў панаставілі. З памылкамі, але панаставілі. Адкрылі сайт Аўгустоўскага канала ізноў на тых жа трох мовах, дзе нарабілі па сорак памылак у польскім і ангельскім тэкстах, але беларускую мову нахабна праігнаравалі, мабыць, пабаяліся нарабіць памылак яшчэ больш.*

*І пры гэтым тыя спартовыя чыноўнікі сядзяць у высокіх кабінетах аблвыканкама. Што яны там робяць. Бароняць дзяржаўныя інтарэсы і дзяржаўны прэстыж. Але пры такіх адносінах да беларускасці прэстыж той вышэй плінтуса не падымецца.*

*Кіраўніцтва краіны Міністэрства замежных спраў падымаюць прэстыж краіны на дзяржаўным узроўні, а на побытавым, сярод простых людзей гэта робіць турыстычная індустрыя. І вось яна перад намі і ўсім светам - антыбеларуская, непісьменная, хамаватая, не здольная нават на пытанне па-беларуску так жа па-беларуску адказаць. А ўсе гэтыя турыстычна-спартовыя дзеячы вучыліся ў большасці сваёй у беларускіх ВНУ ў асноўным за дзяржаўныя грошы. За гэтыя дзяржаўныя грошы яны і навучыліся не любіць і не паважаць гэтую самую дзяржаву.*

***Яраслаў Грынкевіч.***




*Чаго ж у гэтым выпадку хацець ад прыватных турыстычных фірмаў, якія наперагонкі кінуліся выпускаць розныя буклеты і праспекты на самых розных мовах, але зноў жа без беларускай.*

# Навукова-практычная канферэнцыя ў Стоўбцах

27 кастрычніка ў Стоўбцах адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Стаўбцоўшчына - гісторыка-культурная спадчына Наднёманскага рэгіёна", арганізаваная сумесна Інстытутам гісторыі НАН Беларусі, Аддзяленнем гуманітарных навук і мастацтваў, Стаўбцоўскім выканаўчым камітэтам. Было заяўлена звыш сарака дакладаў і паведамленняў. У канферэнцыі бралі ўдзел навукоўцы з НАН Беларусі, аспіранты, студэнты, прадстаўнікі турыстычнай сферы, архітэктары, краязнаўцы, а таксама вучні старэйшых класаў з розных школ Стаўбцоўшчыны. Канферэнцыя выклікала вялікую цікавасць у грамадскасці. Паводле яе вынікаў была прынята рэзалюцыя.



З прывітальным словам на канферэнцыі выступіла дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Стаўбцоўскай выбарчай акрузе № 70 Алена Анісім. Яна выказала некалькі прапаноў для выніковай рэзалюцыі. Прыводзім тэкст яе выступу.

*Паважаныя ўдзельнікі канферэнцыі!*

*Паважаныя госці, шаноўныя прысутныя!*

*Дазвольце мне прывітаць вас з нагоды адкрыцця навукова-практычнай канферэнцыі "Стаўбцоўшчына - гісторыка-культурная спадчына Наднёманскага рэгіёна". Трэба сказаць, што правядзенне такой канферэнцыі менавіта тут вельмі важна. Бо Стаўбцоўская зямля - дарагая і блізкая кожнаму беларусу, хто ведае і шануе беларускае слова, беларускую культуру. Менавіта тут нарадзіўся волат беларускай літаратуры Якуб Колас. На гэтай зямлі адбылася знакавая сустрэча нашых класікаў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Мова Стаўбцоўшчыны стала асновай сучаснай беларускай літаратурнай мовы. І ўсе гэтыя факты патрабуюць асэнсавання і актыўнага выкарыстання ў штодзённым жыцці. На жаль, мусім канстатаваць, што тут, у Стоўбцах, няма краязнаўчага музея, да гэтай пары няма помніка Якубу Коласу.*

*Таму я звяртаюся да ўдзельнікаў канферэнцыі з наступнымі прапановамі:*

*1. Стварыць аргкамітэт для заснавання краязнаўчага музея ў г. Стоўбцы, у які запрасіць прадстаўнікоў мясцовай выканаўчай улады, навукоўцаў-гісторыкаў, краязнаўцаў, настаўнікаў.*

*2. Ініцыяваць арганізацыю ў г. Стоўбцы гімназіі з беларускай мовай навучання для таго, каб справа адукацыі на роднай мове, якой Якуб Колас прысвяціў шмат працы і сіл, мела належнае ўвасабленне і перспектыву.*

*3. Падтрымаць ідэю ўсталяваць помнік Якубу Коласу ў г. Стоўбцы і накіраваць адпаведны ліст у Міністэрства культуры.*

*Гэта будзе добрым практычным вынікам канферэнцыі і паспрыяе таму, каб Стаўбцоўшчына заняла сваё належнае месца ў культурным жыцці нашай краіны.*

*Шаноўныя спадарства! Жадаю ўсім удзельнікам канферэнцыі плённай працы, цікавых даследаванняў і новых перспектыўных задум.*

***Наш кар.***

# Сябры ТБМ наведалі гарадзенскія могілкі

У Гародні пачалі адзначаць Дзяды. Сябры Таварыства беларускай мовы наведалі могілкі на праспекце Касманаўтаў. На гэтым гарадзенскім некропалі знаходзяцца магілы многіх гарадзенцаў, якія зрабілі вялікі ўклад у нацыянальную культуру. Адведванне пачалося з магілы Апанаса Цыхуна - заслужанага настаўніка Беларусі, паэта і мовазнаўца. Кажа Алесь Крой - старшыня абласной Рады ТБМ:

- Мы вырашылі, што на Радаўніцу і на восеньскія Дзяды трэба хадзіць. Не заўсёды атрымлівалася адведаць Апанаса Цыхуна два разы на год, але адзін раз цягам года абавязкова прыходзілі. Спачатку наведвалі яго, а пасля з кожным годам далучалі яго сяброў. Ён сябраваў з заслужаным дзеячам культуры Аляксандрам Шыдлоўскім, таксама сябраваў з Ліпенем. Ён меў сярод знаёмых палову Гародні.

Некаторыя месцы пахавання былі прыбраныя актывістамі, бо не ўсе з памерлых маюць сваякоў. Гарадзенскія актывісты адведалі магілы сужэнства Цыхуноў, Шыдлоўскіх, Талерчыкаў, Антона Валынчыка, Юркі Гуменюка, Браніслава Ржэўскага, Аляксея Карпюка ды Юрыя Астроўскага. Таксама яны спадзяюцца, што да Дзядоў будуць адведаны і іншыя грамадскія і нацыянальныя дзеячы Гародні, якія адышлі.





***Якуб Сушчынскі,*** *Беларускае Радыё Рацыя, Гародня. Фота аўтара*

## Зміцер Сасноўскі: *"Амерыканцы ўвесь час цікавіліся, адкуль мы, што за музыку грае гурт "Стары Ольса"*

На мінулым тыдні ў адной са сталічных кавярань адбылася нефармальная сустрэча ўдзельнікаў гурта "Стары Ольса" з журналістамі, прадзюсарамі, усімі прыхільнікамі гурта, якія спрычыніліся да працэсу збору сродкаў на краўндфандынгавай платформе Kickstarter, дзякуючы якой стаў магчымым выпуск новага альбома гурта "Medieval Classic Rock" на амерыканскім лэйбле "Cool Hat Records LLS", а таксама, адбыўся гастрольны тур па Злучаных Штатах Амерыкі.

Пад час сустрэчы ўдзельнікі гурта - дудар і вакаліст Зміцер Сасноўскі, вакаліст і мультыінструменталіст Алесь Чумакоў, бубнач Сяргей Тапчэўскі, лютніст Ілля Кубліцкі, флейтыстка Марыя Шарый і гукарэжысёр каманды Аляксей Войцех падзяліліся сваімі ўражаннямі ад музычных сустрэч з амерыканскай публікай, назіраннямі і меркаваннямі адносна ведаў жыхароў ЗША пра нашу краіну.

На думку нашых музыкантаў, вялікая колькасць амерыканцаў, калі кажаш: "Беларусь", - ведаюць, што гэта Еўропа, але дзе канкрэтна знаходзіцца краіна - блытаюцца. Але вельмі вялікі адсотак людзей ужо добра ўяўляе, дзе знаходзіцца і што сабой уяўляе краіна Беларусь. А тое, што гэта не Расія, многія ў Амерыцы ведаюць дакладна. Да прыкладу, амерыканскі менеджар гурта - грамадзянка ЗША, зауважыла, што пасля месяца сумесных паездак па краіне, яна зрабіла цвёрды вывад - беларусы і рускія - абсалютна розныя людзі, а Беларусь і Расія - далёка не адно і тое ж.

Лідар гурта З. Сасноўскі:

- За час туру па ЗША мы наведалі 20 штатаў, далі 23 канцэрты ў буйных амерыканскіх гарадах, а яшчэ адыгралі 35 канцэртаў у клубах і цэрквах. Асабліва цёпла прымалі нашу музыку пад час канцэртаў у Нью-Ёрку і Сан-Францыска, куды прыйшло шмат этнічных беларусаў, а таксама, амерыканцаў, многія з якіх памятаюць, што іх продкі маюць карані ў Беларусі.

Што тычыцца рэакцыі публікі на сярэднявечную музыку "Старога Ольсы", то, як падкрэсліў Зміцер, у Амерыцы такой музыкі выконваецца мала:

- На адным з рэнесансных фэстаў мы сустрэлі толькі адзін гурт, удзельнікі якога на старажытных інстументах гралі сэрэднявечныя мелодыі. Больш за дзевяноста адсоткаў таго, на чым граюць у Амерыцы на такіх фэстах - гэта гітары, скрыпкі і шатландскія ды ірландскія традыцыйныя інструменты. Бо асноўная музыка ў краіне - кантры, у тым ліку і на фэстах сярэднявечнай культуры. Таму першай рэакцыяй амерыканцаў на нашу музыку было здзіўленне. Пасля таго, як яны паслухалі, ім спадабалася і натоўпамі падыходзілі на нас, каб распытаць пра тое, на якіх інструментах і што за музыку мы граем, адкуль мы прыехалі, - зазначыў Зміцер Сасноўскі.




- На амерыканскіх рэнесансных фестывалях у ЗША, дзе мы выступалі, да музыкантаў "Старога Ольсы" пастаянна падыходзілі наведвальнікі і казалі, што ў нас вельмі класныя строі і прасілі дазволу сфатаграфаваць іх. Так маю сукенку не аднойчы фатаграфавалі з розных бакоў, распытвалі як пашыць такое. Бо ў адрозненне ад беларусаў, там людзі апранаюць больш у фэнтэзійным духу.




Амерыканцам было цікава даведацца пра тое, якія інструменты выкарыстоўваюць музыканты. Зміцер працягвае:

- Напэўна, вы ведаеце, што ў Амерыцы паўсюдна гучаць шатландскія дуды - хайлэнды. І першае пытанне, якое задавалі амерыканцы нам, гэта таксама bagpipes (валынка)? Адкуль вы прыехалі, што гэта што за інструмент, у яго прыемны гук, у адрозненне ад шатландскай валынкі? Мы кажам, што гэта беларуская традыцыйная дуда, а мы з Беларусі, што ва Ўсходняй Еўропе. Так, амерыканцы слухалі нашы інструменты і ўвесь гурт з цікаўнасцю, бо там гэта рэдкасць.

Таксама амерыканцам былі вельмі цікавы і беларускія рэнесансныя строі. Пра рэакцыю на іх распавядала флейтыстка гурта "Стары Ольса" Марыя Шарый:

Напрыканцы сустрэчы музыканты гурта распавялі пра творчыя планы на будучае:

- Цяпер мы адпачываем, але ў нас ёсць матэрыял для наступнага альбома (а гэта будзе не "Medieval Classic Rock-2"!). Таксама ўжо маюцца прапановы паехаць у канцэртную паездку ў Кітай, запрашэнні на еўрапейскія фестывалі: на Сіцылію, у Партугалію на Азорскія выспы. Акрамя гэтага музыканты працуюць над праектам стварэння пры гурце батлейкі, з дапамогай якой можна было б паказваць батлеечныя спектаклі пад музыку гурта "Стары Ольса, - заінтрыгавала прысутных М. Шарый.

Па завяршэнні сустрэчы музыкі нагадалі, што на канцэрце 20 лістапада ў ДК МАЗ яны плануюць не толькі прэзентаваць новы альбом "Medieval Classic Rock", але і выканаць лепшыя кампазіцыі, якія падабаюцца слухачам. Там жа будзе прэзентаваная новая лютня, якую набылі ў Амерыцы. Слухачоў і прыхільнікаў "Старога Ольсы" на канцэрце чакаюць музычныя сюрпрызы, якія сталі завядзёнкай для музыкаў гурта.

***Анатоль Мяльгуй.***

# Літаратурная гасцёўня "І жартам, і ўсур'ёз!"



10 кастрычніка ў ДУА "Сярэдняя школа № 11 г. Ліды" ў рамках Тыдня беларускай мовы і літаратуры адбылася сустрэча вучняў 11-х класаў з пісьменнікамі Лідчыны, сябрамі літаратурнага аб'яднання "Суквецце". У госці да вучняў і настаўнікаў завіталі кіраўнік літаратурнага аб'яднання Алесь Хітрун, паэтэса Ганна Рэлікоўская і лідскі бард Сяржук Чарняк.

"І жартам, і ўсур'ёз!". Менавіта так гучала тэма сустрэчы, якая аб'яднала ўдзельнікаў літаратурнай гасцёўні. Алесь Хітрун прэзентаваў вучням свой "Вясёлы слоўнік", дзе ім сабраны словы, што выклікаюць розныя смешныя асацыяцыі ў людзей. Вось толькі некалькі трапных гумарынак назіральнага госця: *дымаход - нос курца, жар-птушка - перапечаная курыца, правадыр - парушальнік руху, куркума - ліса*. Акрамя гэтага, Алесь пазнаёміў прысутных з копіямі старонак часопіса "Вожык" за розныя гады выдання, што выклікала асаблівую цікавасць і настаўнікаў, і вучняў.





Ганна Рэлікоўская прачытала свае гумарыстычныя вершы "Чароўны корак", "Добры мікрараён", "Хто ўзяў Бастылію?", "Папялушка", лейтматывам якіх была думка, выказаная Сяргеем Вацлававічам: "Звычайна смешнае тое, што праўдзівае". Шаноўны госць таксама мудра адзначыў, што смяяцца трэба са сваіх недахопаў і паводзінаў, а не з іншага чалавека.

Далей сустрэча працягвалася ў музычным суправаджэнні. Шчыра і пранікнёна загучалі пад гітару цудоўныя песні "Пацалунак" (на словы А. Моркаўкі), "Пакахай мяне, дзяўчынка" (на словы Я. Купалы) і інш. А ўсе разам: і госці, і гаспадары - гучна заспявалі такія музычныя творы, як "Зорка Венера" (на словы Максіма Багдановіча), "Простыя рэчы" і "Тры чарапахі".

Адказалі літаратары і на шэраг адрасаваных ім пытанняў: "На што скіроўваюць сучасныя пісьменнікі Лідчыны сваю сатыру?", "Ці сапраўднае прозвішча ў Алеся Хітруна: можа, гэта творчы псеўданім?", "Ці даводзілася лідскім паэтам прымаць удзел менавіта ў конкурсах сатыры і гумару?"

Напрыканцы сустрэчы вучні падзякавалі гасцям за гумарыстычныя вершы, цікавыя гісторыі з уласнага жыцця, за шчырыя адказы на пытанні. А яшчэ яны падарылі ўдзельнікам імпрэзы невялікія салодкія пачастункі, каб весялей ім жылося і хацелася далей пісаць вершы на актуальныя тэмы сучаснасці.

***Наш кар.***

# Да 100-годдзя Янкі Брыля



***Грамадскае аб'яднанне***
***"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"***
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак № 3015741233011 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ Белінвестбанка", г. Мінска, код 739*

**31 кастрычніка 2016 г. № 73**

С.П. Папкову
Міністру сувязі і інфарматызацыі
Рэспублікі Беларусь
пр. Незалежнасці, 10,
220050, г. Мінск

Аб выданні юбілейнай паштовай маркі

Шаноўны Сяргей Пятровіч!

4 жніўня 2017 года наша краіна будзе святкаваць 100-я ўгодкі народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля.

У сувязі з гэтым просім Вас выдаць юбілейную паштовую марку Янкі Брыля на фоне Мірскага замка, бо карані Янкі Брыля ў Карэліцкім раёне, непадалёк ад Міра.

Было б добра зрабіць спецгашэнне гэтай маркі якраз у Мірскім замку.

З павагай,
старшыня ТБМ А.Трусаў.

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лістападзе

Абрагімовіч Марына Яўген.
Аліхвер Людміла Уладзіслав.
Амінава Святлана
Андрэева Галіна Андрэеўна
Андрэйкавец Надзея Дмітр.
Анціфораў Алег Мікалаевіч
Анцыповіч Максім Рыгоравіч
Асецкі Аркадзь
Асмакоўская Алена
Атрахімовіч Іосіф Канстанцін.
Бабак Вольга
Бабкова Ганна Ігараўна
Баранаў Аляксандр Георгіевіч
Бародка Зміцер Міхайлавіч
Бартасевіч Людміла
Баўтовіч Міхась
Бахвалаў Дзмітры
Белакоз Вера
Беляўская Таццяна
Борын Алег Мікалаевіч
Булаш Алена
Бусько Сафія Раманаўна
Бухавец Пятро Пятровіч
Быцкевіч Сяргей Аляксандр.
Ваданосава Фаіна Аляксандр.
Васько Віктар Вячаслававіч
Ветчынаў Сяргей
Вікторчык Ніна Сяргееўна
Віценя Алег Аляксандравіч
Вішнеўскі Павел Уладзімір.
Волкаў Алег
Вярцінскі Анатоль Ільіч
Галяшоў Зміцер
Ганцэвіч Вольга Мечыслав.
Ганчарова Таццяна
Гарлуковіч Яўген Дзмітрыевіч
Гівоіна Вольга Міхайлаўна
Главацкіх Васіль Б.
Глухава Святлана Пятроўна
Гнедчык Алег
Горбач Аляксандр Клаўдзіевіч
Груша Дар'я Уладзіміраўна
Грыб Ян Янавіч
Грыгаровіч Андрэй Анатол.
Губарэвіч Віктар Дзмітрыевіч
Губчык Яўген Іванавіч
Гур'ян Алена Барысаўна
Гучок Яўген Сяргеевіч
Дабравольскі Аляксандр Ал.
Давыдзька Святлана
Данішэвіч Вольга Вячаслав.
Дацэнка Аляксандр Кірылавіч
Дзербянёва Анжаліка
Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна
Дзядзюля Вера
Длатоўская Аліна Аляксандр.
Домаш Валянціна Іосіфаўна
Досіна Алена
Доўнар Аляксандр Андрэевіч
Драгун Данута
Драздовіч Алена Станіслав.
Дрыга Святлана Мікалаеўна
Дубко Ганна Міхайлаўна
Дубовік Іна Пятроўна
Дуброў Алег Анатольевіч
Ермакова Аляксандра Мікал.
Есьман Рыгор Міхайлавіч
Еўсіевіч Наталля Анатольеўна
Ефіменка Ганна Сяргееўна
Ждановіч Міхаіл Васільевіч
Зайкоўскі Эдвард Міхайлавіч
Зарэцкая Вера Якаўлеўна
Здановіч Уладзімір Васільевіч
Зуева Галіна Паўлаўна
Ігнатчык Андрэй Валер'евіч
Іокша Марыя Мікалаеўна
Кавалёва Алена Пятроўна
Кавалёў Аляксей Аляксандр.
Кадыш Любоў
Кажамякін Генадзь Вячаслав.
Казакоў Алесь
Казачонак Сяргей
Казлоўскі Руслан Канстанцін.
Калатоўкіна Ларыса Анатол.
Калчанаў Алег Аляксеевіч
Капойка Уладзімір
Карповіч Ірына Іванаўна
Касцюк Таццяна Уладзімір.
Кацяшоў Дзмітры Сяргеевіч
Кіеня Уладзімір Уладзіміравіч
Кірэева Алена Уладзіміраўна
Клікун Таццяна
Козел Валеры
Козел Галіна Маркаўна
Корнеў Алесь Касьянавіч
Кошкіна Людміла Чаславаўна
Круглік Уладзімір Анатол.
Крук Валянціна Іосіфаўна
Крыжаноўская Вольга Аляк.
Кудзёлка Генадзь Міхайлавіч
Кудлацкая Валянціна
Кужанава Вольга
Кузьма Аляксандр
Кузьміч Мікалай Пятровіч
Кулакевіч Сяргей Адамавіч
Купрэева Таццяна Уладзімір.
Курніцкая Яна Іванаўна
Кучынская Галіна
Лапіцкая Святлана
Лапкоўская Браніслава Міх.
Левіт Зміцер
Лепяцюхіна Ганна
Лісіцкая Вольга Мікалаеўна
Лісіцын Генадзь Дзям'янавіч
Літоўчык Святлана Міхайл.
Лойка Алег Паўлавіч
Лойка Ніна Сцяпанаўна
Лось Дзіяна Іванаўна
Лубянава Таццяна Віктараўна
Лысова Таіса
Ляшук Валерыя
Мазур Тамара Міхайлаўна
Макарэвіч Наталля Міхайл.
Маковіч Дзіна
Маліноўская Марфа Яўген.
Маліноўскі Віктар Леанідавіч
Мараўскі Фелікс Дамінікавіч
Маргові Антон Антонавіч
Мароз Жанна Мікалаеўна
Марозава Святлана Валянц.
Мацкоўская Наталля Васіл.
Мацюкевіч Паўлюк Іванавіч
Мельнік Міхась Іванавіч
Мельнікаў Аляксандр
Мельнікаў Андрэй Міхайл.
Мельнікаў Юры Сяргеевіч
Меляшкевіч Юры Віктаравіч
Міжурына Раіса Канстанцін.
Мілаш Леакадзія
Мілюць Анатоль Іванавіч
Міхалевіч Мілана Міхайлаўна
Міцкевіч Андрэй Мікалаевіч
Моніч Зміцер
Мухіна Леанарда Станіслав.
Нагін Павел Пятровіч
Несцераў Аляксей
Нікалаевіч (Палонка) Вольга В.
Нікіціна Ліля
Нікіціна Людміла Канстанцін.
Пагрэбіцкі Алег
Падасетнікаў Васіль
Паляшчук Таццяна
Панюціч Аляксандр
Паражынскі Аляксандр
Паросава Марына
Пашкевіч Валеры Васільевіч
Пракаповіч Мікалай Мікалаев.
Пракопчык Марына Міхайл.
Прыбыш Павел Іванавіч
Пугаўка Алена
Пугачэўскі Аляксандр Віктар.
Пыльчанка Яўген Аляксандр.
Пячкова Яўгенія Якаўлеўна
Рабушка Анастасія Віктараўна
Радзівон Ірына
Радкоў Генадзь Андрэевіч
Ражко Ірына Францаўна
Ралько Леанід Міхайлавіч
Раманюк Наталля
Розумаў Анатоль Якаўлевіч
Русецкі Марцін Ігаравіч
Руткоўская Яўгенія Карпаўна
Рыжыкаў Міхаіл
Рэзнікава Настасся Уладзімір.
Сабалеўскі Уладзіслаў Уладзім.
Савіцкая Яніна Іосіфаўна
Савіч Аляксандр Аляксандр.
Салей Алена Міхайлаўна
Салей Ларыса Іванаўна
Сарнацкі Ігар
Севасцюк Марына Леанідаўна
Севасцян Павел
Сергіевіч Дзмітры
Сімакова Рэгіна Іосіфаўна
Сінкевіч Мікалай Сцяпанавіч
Сітнікаў Арцём Сяргеевіч
Скок Віктар Уладзіміравіч
Скрыпнічэнка Георгі Сяргеев.
Скуратовіч Аркадзь
Слабадзін Аляксандр Юр'евіч
Смаргун Валянцін Васільевіч
Сойка Мікалай Уладзіміравіч
Солтан Алена Антонаўна
Сталярова Вера
Станкевіч Ларыса Фёдараўна
Стасюкевіч Дзіна
Сурко Анатоль
Сцепулёнак Эма Антонаўна
Сцямпкоўская Хрысціна
Тарасава Святлана Міхайлаўна
Таўгень Антон
Тозік Эдуард
Трафімец Ульяна Святаслав.
Трафімчык Алена Веніямін.
Турцэвіч Паліна Віктараўна
Тыгрыцкая Вольга Аляксанд.
Тычына Зміцер Валянцінавіч
Тышко Іван Іванавіч
Уласава Дар'я
Уласевіч Дар'я
Федаровіч Кацярына
Федаровіч Надзея
Фралоў Аляксей Валер'евіч
Фядзюшын Ягор Ягоравіч
Хамінскі Міхась Аляксандр.
Хвошч Галіна
Хляба Глеб Ігаравіч
Царкоў Мікалай Прохаравіч
Цвік Валер Іосіфавіч
Цвяткова Алена Мікалаеўна
Цехановіч Святлана
Цімаховіч Аляксандра Іван.
Цярэшчанка Ігар Барысавіч
Чарнаморцаў Валер
Чаховіч Г. Г.
Чашун Уладзімір
Шнітоўскі Міхась
Шпак-Рытскі Юрась
Шутава Вольга Вікенцеўна
Шчурко Галіна Аляксандр.
Шчурко Лідзія Іванаўна
Шчэрбін Іван Аляксеевіч
Шыла Іван Уладзіміравіч
Шыманчык Святлана Мікал.
Шымкус Рычард Эдуардавіч
Ючкавіч Аксана Станіславаўна
Якаўцава Людміла Уладзімір.
Ялугін Эрнест Васільевіч
Яніцкі Міхаіл Іванавіч
Яскевіч Аляксей Юр'евіч





*Навіны Германії*

# Дзясяты тыдзень нямецкай мовы і культуры ў Берасці

З 17 па 27 кастычніка 2016 года ў горадзе над Бугам праходзіў Дзясяты тыдзень нямецкай мовы і культуры з вельмі насычанай праграмай мерапрыемстваў. Сёлета Тыдзень нямецкай мовы і культуры адзначае юбілей. Упершыню ён адбыўся 10 гадоў назад - у 2006 годзе.

- У першы год мы правялі толькі два мерапрыемствы і яшчэ не звалі гэта тыднем, - адзначыла настаўнік нямецкай мовы СШ № 7 Карын Краус. - У наступным годзе ў нас ужо былі лектары Фонду імя Роберта Боша, валанцёры DAAD. Мы папрасілі дапамогі ў Берасцейскай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага.

Так мерапрыемства разраслося да маштабнай падзеі. На Тыдні нямецкай мовы выступалі беларускія паэты Алесь Разанаў, Віктар Жыбуль, Вера Аснач, Андрэй Хадановіч. Прыязджалі і госці з Германіі і Аўстрыі: напрыклад, аўстрыйскі пісьменнік Марцін Полак. Сёлета перад берасцейцамі выступіў таксама нямецкі журналіст Томас Файбель. Прайшлі і іншыя мерапрыемствы - як для школьнікаў, так і для студэнтаў і выкладчыкаў нямецкай мовы.



На заключных мерапрыемствах у межах Тыдня нямецкай мовы і культуры 26 кастрычніка, адбываліся адразу дзве майстэрні "Жыць у сяброўстве з прыродай, карыстаючыся ўзнаўляльнымі крыніцамі энергіі" - у сярэдняй школе № 7 і Берасцейскім дзяржаўным тэхнічным універсітэце. А 27 кастрычніка ў абласной бібліятэцы імя Горкага прэзентаваны даклад "Храмавае свята, Майскае дрэва, Птушынае вяселле - абрады і звычаі паволжскіх немцаў 1763 года".

Акрамя таго, у межах Тыдня нямецкай мовы і культуры ў Берасці прайшлі такія тэматычныя сустрэчы як - "Моўны тэст OnDaF (DAAD)" нямецкай службы акадэмічных абменаў студэнтаў, аўтарскія чытанні "LikeMe - кожны клік улічваецца", серыя семінараў і спеўных імпрэзаў.

*Беларускае Радыё Рацыя.*

**На здымку:** адна з арганізатараў тыдня Карын Краўс.

## Літаратурныя чытанні "Like me - Jeder Klick zahlt"

У рамках Тыдня Германіі ў Берасці нямецкі пісьменнік Томас Файбель у школе № 7 прадставіў свой актуальны раман "Like me". З самага пачатку ён без натацый пачынае дыскусію са школьнікамі на такія тэмы як кібермобінг, махлярства ў сетцы і залежнасць ад смартфонаў, так што напрыканцы гутаркі яны ведаюць, што ім рабіць у экстраннай сітуацыі.

*Журналіст, аўтар дзіцячых кніг і медыя-эксперт Томас Файбель кіруе Бюро медыя для дзяцей у Берліне, публікуецца ў Spiegel, Zeit, Spielen und Lernen і розных спецыялізаваных IT-выданнях. Томас Файбель піша раманы для дзяцей і моладзі, тэсціруе камп'ютарныя гульні, а таксама з'яўляецца адным з заснавальнікаў прэміі за лепшы дзіцячы вучэбны дадатак TOMMI, якая прысуджаецца з 2002 г. Федэральнае аб'яднанне нямецкіх бібліятэчных і інфармацыйных саюзаў узнагародзіла Томаса Файбеля ў 2014 г. медалём імя Карла Прэйскера за "выбітную дзейнасць у галіне падтрымкі чытання і распаўсюджвання электронных медыя для дзяцей і моладзі".*

***Радыё Рацыя.***

## Пінскія школьнікі выступілі са спектаклем на Дзясятым тыдні нямецкай мовы і культуры

У чацвер 20 кастрычніка ў актавай зале сярэдняй школы № 7 дзеці прадставілі спектакль "Неверагодная вандроўка на машыне часу". Выступаць перад берасцейскімі аднагодкамі навучэнцам гімназіі № 2 горада Пінска даводзіцца не ўпершыню. Гэта іх трэці візіт у рамках "нямецкага тыдня".







- Для дзяцей спектакль - добрая матывацыя, каб вучыцца, - распавяла настаўнік нямецкай мовы гімназіі № 2 г. Пінска Таццяна Мельнікогіч. - Дзеці любяць ездзіць. Вывучылі, выступілі, атрымалі аддачу, самім спадабалася. Будзем далей ставіць? Так, будзем!

Па сюжэце спектаклю дзве сяброўкі знаходзяць на гарышчы машыну часу і адпраўляюцца ў вандроўку. На сваім шляху яны сустракаюць робатаў, каўбояў, сумнага блазна, які перажывае з-за сваёй прафесіі: у свеце адбываецца шмат трагічных падзей, а яму трэба весяліць дзяцей. Спектакль атрымаўся вясёлым, яркім і надзвычай музычным. Дзеці выконвалі песні на нямецкай мове і танчылі.

***Таццяна ГАПЕЕВА.***
***Фота аўтара.***

# "Спеўны сход"



У галерэі "Ў" 25 кастрычніка адбыўся чарговы спеўны сход, дзе ўсе ахвотныя маглі паспяваць песні на музыку славутага беларускага і польскага кампазітара Станіслава Манюшкі пад кіраўніцтвам Сяргея Доўгушава, саліста Белдзяржфілармоніі. Запрошаны знакаміты оперны спявак Віктар Скарабагатаў, дарэчы, настаўнік Сяргея, распавёў пра Манюшку, яго жыццё і музычную творчасць. Ён тлумачыў, што мазурка - гэта польская музыка, але музыка Манюшкі - беларуская. Бо натхненне для твораў чэрпаў у нацыяльным фальклоры, а яго творчасці ўласцівыя беларускія народныя матывы.

Станіслаў Манюшка стварыў амаль 20 опер, 3 балеты, шэраг твораў, напісаў каля 400 сольных песень. Шмат з іх створаны на аснове беларускага фальклору, напрыклад "Песні прынёманскіх вёсак", што ўвайшлі ў 12 "Хатніх спеўнікаў". У Менску оперу "Галька" С. Манюшкі ўпершыню паставілі ў 1856 г. А праз 120 гадоў (1975) адбылася другая пастаноўка на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі.

Усе прысутныя разам заспявалі песню "Вандроўная пташка" на верш Яна Чачота пад акампанемент гітары. Гэта было цудоўна і прыгожа. А затым развучылі вясёлую народную песню "Кум і кума" і праслухалі яе ў выкананні самога мэтра Віктара Скарабагатава. Як ён прафесійна яе заспяваў! О, нам далёка да яго.

Усе былі задаволены.

***

"Спеўны сход" - гэта праект Аляксея Чубата, журналіста па адукацыі, які існуе ўжо два гады і праводзіцца раз у месяц у розных месцах сталіцы. А паведамляецца пра час правядзення загадзя ў сацыяльных сетках Фэйсбуку, У Кантакце. Праект сацыяльны, разлічаны на масавую аўдыторыю і асабліва аматараў паспяваць. Прычым, уваход вольны.

Мне вельмі падабаецца гэтая ідэя, і я па магчымасці стараюся наведваць усе мерапрыемствы. Так, гэтым летам "Спеўны сход" праходзіў у цэнтры горада, каля музея тэатральнай культуры, і мы вадзілі карагоды і спявалі купальскія песні разам з гуртом "Мярэжа" (Юляй Літвінавай). І трэба сказаць, што калі спяваеш у гурце, адразу настройваешся на агульную хвалю і адчуваеш моц і падтрымку. Бо спяваць аднаму часам неяк няхручна, няёмка і нецікава. А вось, калі побач з табой стаяць такія ж самыя захопленыя людзі, ты ўжо трошкі асмельваешся і падаеш голас.

Разам з тым вельмі прываблівае і яркая асоба самога вядоўцы Сяргея Доўгушава, які заўсёды задае тон і настройвае на спеўны лад. Калі яго бачыш і чуеш, заўсёды хочацца спяваць з радасцю і ўсмешкай. Нават сумныя і лірычныя песні. Да таго ж ён кіраўнік гурта "Вурай" (фальклорная музыка) і ўдзельнік, аўтар іншых праектаў.

І наступны "Спеўны сход" адбудзецца ўжо 8 лістапада, прысвечаны Р. Барадуліну.

***Наш кар.***





# Якуб Колас і Случчына

Жыццёвыя шляхі Якуба Коласа (3.11.1882-13.8.1956) праляглі і на Случчыне. Некаторыя даследчыкі яго жыцця і творчасці лічаць, што Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч (сапраўдныя імя і прозвішча) пабываў у гэтым кутку Беларусі яшчэ да кастрычніка 1917 года, а свае ўражанні выкарыстаў пры напісанні паэмы "Новая зямля" і трылогіі "На ростанях". Магчыма, так яно і было, аднак дакументальных пацвярджэнняў гэтага ў аўтара няма. А вось што дакладна вядома, то гэта праца класіка беларускай літаратуры ў Слуцку ў пачатку 1920-х гадоў выкладчыкам на курсах па падрыхтоўцы настаўнікаў для выкладання ў школах на беларускай мове.

У летапісе жыцця і творчасці Якуба Коласа ёсць запіс за 1921 год: *"Да 10 ліпеня. Наведвае Слуцк. Знаёміцца з настаўніцкімі курсамі"*. Запіс за 1923 год: *"Чэрвень, 29 - ліпень, 30. У г. Слуцку на настаўніцкіх курсах чытае лекцыі па граматыцы і методыцы выкладання беларускай мовы"*. 3 ліпеня 1923 года Якуб Колас пісаў сваёй жонцы Марыі Дзмітрыеўне: *"...Затрымаўся я покі што на кватэры загадчыка аддзела народнае асветы. Жыву ў яго ўжо цэлую пору. Нічога. Жыць можна. Кормяць добра. Учора вечарам заходзіў на курсы. Заўтра толькі пачну выкладаць. Заўтра мне будзе адведзена дзве гадзіны часу"*.

А вось што Якуб Колас напісаў пра настаўніцкія курсы ў Слуцку Марыі Дзмітрыеўне ў пісьме за 4 ліпеня: *"Чытаў я дзве гадзіны: першая гадзіна была адведзена пад граматыку; другая - пад методыку. Методыку я пачаў чытаць з сярэдзіны, з таго месца, дзе гутарка ідзе аб тым, як трэба даваць практычныя лекцыі. Такое чытанне выклікана тым, што курсанты даюць практычныя лекцыі і, каб панавіць у памяці педагагічныя прынцыпы, прыйшлося з гэтага і пачаць. Слухалі незвычайна ўважліва. Я вельмі рад, што захапіў з сабою методыку. Курсы тут пастаўлены незвычайна грунтоўна. Дысцыпліна на курсах самая строгая. Курсантаў 150 чалавек, і ходзяць усе да аднаго. Курсы пачынаюцца роўна з 10 гадзін. Да 12 г. ідуць практычныя лекцыі, практыкуюць самі курсанты. Кожны дзень даецца чатыры лекцыі. А 12 гадзіне прыходзяць лектары. Чытаюцца лекцыі да 4 гадзін. У 6 гадзін ідуць кружкавыя заняткі палітычнага зместу. У сем - канферэнцыі наконт пробных лекцыяў. Канчаюцца курсы ў 8 гадзін вечара. Курсанты так заняты, што не маюць часу пайсці ў горад..."*.

Склад курсантаў нельга назваць аднародным: сярод іх былі мужчыны і жанчыны, людзі рознага ўзросту, сацыяльнага паходжання, адрозніваліся яны і па сваіх характарах, поглядах, узроўню прафесійнай падрыхтаванасці. З пісьмаў Якуба Коласа: *"Я ўспеў сёння па граматыцы зрабіць дыктоўку. Сшыткаў 70 ужо перагледзеў. Няграматна напісана ў двух. Чатыры напісалі зусім граматна. Большасць - здавальняюча, многа - добра. Сярод слухачоў чалавек 15 ёсць з вышэйшаю асветаю... Сярод старых настаўнікаў прыхільнасці да беларускасці няма, але гэта не перашкаджае ім пісаць цэлымі вечарамі план лекцыі па-беларуску. Калі не здолее сам, ідзе да другога і перакладае на беларускую мову. Канферэнцыі адбываюцца на беларускай мове, пратаколы вядуцца па-беларуску. Сярод слухачоў ёсць такія хлопцы, што не прапусцяць ніводнага небеларускага слова. І калі часамі пачынае хто блытаць беларускую і расейскую мову, як гэта было раз на агульным сходзе, то з 10-15 месц ад слухачоў і слухачак чуюцца падказванні. Ёсць настаўнікі і настаўніцы, якія зусім правільна, бойка і жыва даюць лекцыі па-беларуску"*.

Паводле Якуба Коласа, праграма курсаў была распрацавана Народным камісарыятам асветы Беларусі. На чале Слуцкіх настаўніцкіх курсаў стаяла курсавая рада, у якую ўваходзілі загадчык курсаў, лектары, групаводы, прадстаўнікі саюза працаўнікоў асветы і аддзела асветы акруговага выканаўчага камітэта, прадстаўнік слухачоў курсаў. Для курсантаў чыталі лекцыі па гісторыі рэвалюцыйнага руху, палітычнай эканоміі, дзяржаўным будаўніцтве, гістарычным матэрыялізме, прыродазнаўстве, гігіене, беларускай мове і методыцы выкладання роднай мовы. Акрамя асноўных лекцый рада курсаў прадугледзела спецыяльныя даклады аб працоўных метадах у школе і аб дынаміцы школьных сістэм. А яшчэ былі лекцыі *"па прафесіянальнаму руху і па гісторыі рэлігіі"*. Заняткі на курсах адбываліся ў памяшканні



**_Партрэт Якуба Коласа работы мастака Я.М. Кругера (1923 г.)_**

другой сямігодкі (цяпер гімназія № 1 горада Слуцка), дзе і жыла большая частка курсантаў.

Якуб Колас не толькі чытаў лекцыі на курсах, але і знаёміўся з бытам настаўнікаў, сустракаўся з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці, з жыхарамі Случчыны. У адным з пісьмаў да Марыі Дзмітрыеўны ён напісаў: *"Быў раз у тэатры. Гралі саматугам. Але адмовіцца нельга было. Тэатр пачаўся а 12 гадзіне ўночы. Скончыўся каля 4-х. Гэта ўжо такі слуцкі звычай"*. А вось - з іншага пісьма: *"Учора быў у гасцях у загадчыка курсаў Сяргея Антонавіча Бярозкі. Гэта ўжо пажылы настаўнік, адлічны арганізатар, чалавек дзела"*.

С.А. Бярозка да Слуцка працаваў выкладчыкам славеснасці ў настаўніцкіх семінарыях ў Беластоку, Вільні, выхоўваў дваіх дзяцей - сына і дачку, якім у 1923 годзе было 17 і 16 гадоў адпаведна. Якуб Колас заўважыў, што *"сын незвычайна даравіты хлопец. Навейшую расейскую літаратуру ведае, як прафесар, разважае па-прафесарску. Незвычайна начытаны, мае фенаменальную памяць: яму досыць прачытаць падручнік па хіміі старонак на 200, і ён будзе помніць усе формулы... Скончыў драматычную студыю, піша вельмі талентна расейскія вершы, пераймае крыху Блока, Брусава, імажыністаў, але формы, змест, пачуццё злучаюцца гарманічна і вельмі прыгожа... Сястра яго Наталля - мілая, разумная, інтэлігентная дзяўчына. Брат і сястра страшна прывязаны адно к другому. Хлопец хваравіты, схілен да прастуды... Калі я пазіраў на гэтага юнака, то мне чамусь напомніў ён Максіма Багдановіча і сваёю інтэлігентнасцю і сваёю паэзіяю..."*.

Якуб Колас не памыліўся: сын С.А. Бярозкі Георгій з цягам часу стаў празаікам, крытыкам, літаратуразнаўцам, кінарэжысёрам. У 1941 годзе добраахвотна пайшоў на фронт, пасля Вялікай Айчыннай вайны жыў і працаваў у Маскве. З 1945 года - член Саюза пісьменнікаў СССР, пісаў на рускай мове. Георгій Бярозка ўпершыню ў беларускай крытыцы і літаратуразнаўстве ўзняў пытанні ўзаемаадносін формы і зместу, эвалюцыі жанраў і стыляў, гістарызму ў падыходзе да стварэння і ўспрымання літаратурных твораў. У цэнтры ўвагі пісьменніка былі гераізм народа ў Вялікай Айчыннай вайне, патрыятызм, вернасць салдацкаму абавязку, мірныя будні воінаў Савецкай Арміі, жыццё і быт працаўнікоў вёскі і гарадскіх рабочых. Георгій Бярозка - аўтар раманаў "Мирный город", "Сильнее атома", "Необыкновенные москвичи", "Присутствие необычайного", аповесцяў "Красная ракета", "Любить и не любить", "Знамя на холме", "Донесение", "Вечер воспоминаний" і іншых твораў, якія былі змешчаны ў перыядычным друку, выходзілі асобнымі выданнямі. Памёр Георгій Сяргеевіч Бярозка 2 лістапада 1982 года, пахаваны на Ваганькаўскіх могілках у Маскве.

З цеплынёй пісаў Якуб Колас і пра некаторых іншых случчан. Напрыклад: *"Сёстры Марыя Стагановіч і Людміла Гіткові ч - мілыя, слаўныя настаўніцы. Валодаюць ідэальна беларускаю моваю, талковыя, разумныя"*. Людміла Гітковіч (дзявочае прозвішча Стагановіч) удзельнічала ў рабоце беларускага культурна-асветніцкага гуртка "Зарніца", які быў створаны ў снежні 1917 года моладдзю вёсак Старыца і Слабада-Кучынка (цяпер гэтыя вёскі знаходзяцца ў Капыльскім раёне). У пісьме Марыі Дзмітрыеўне ад 20 ліпеня Якуб Колас заўважыў: *"Адна настаўніца-курсантка паказала мне маленькі сшытачак вершаў свае дачкі. Я пакажу табе гэтыя вершы. Дачка яе - дзяўчынка гадоў 15-16, мала вучылася. Нядаўна яна прыехала сюды. Талент у яе, бясспрэчна, ёсць, і талент вялікі. Мне хочацца як-небудзь прыстроіць яе ў Белтэхнікуме. Яна страшна хоча вучыцца. І будзе крыўдна, калі яна так загіне..."*.

Не засталося па-за ўвагай Якуба Коласа і тое, што *"слуцкія крамы пустыя. Хацеў купіць сабе грабеньчык, дык і таго не знайшоў"*. У адным з пісьмаў ён, звяртаючыся да сына Юркі, напісаў: *"Калі вярнуся дадому, то ў Мінску куплю табе што-небудзь, бо ў Слуцку гола і пуста ўсякіх цацак"*. А вось яшчэ з аднаго пісьма: *"Слуцкія крамы абсалютна бедныя. Каб Слуцк быў такі, як Мінск, па велічыні, і параўнаць іх тавары, то Слуцк аказаўся б разоў у 25 бяднейшым"*.

Акрамя лекцый Якуб Колас чытаў слухачам курсаў паэму "Новая зямля", аб чым пісаў Марыі Дзмітрыеўне: *"Учора вечарам* (8 ліпеня - *А.Ж.*) *чытаў першы раз "Новую зямлю". Адзін слухач курсаў, непрыхільнік беларускасці, зазначыў беларусу: "Я не ведаў, што па-беларуску можна так пісаць. Зарэжце мяне, калі я не навучуся беларускай мове""*.

Пісьменнік Ян Скрыган (1905-1992; у 1919-1924 гадах вучыўся ў Слуцку ў школах першай і другой ступені, гімназіі, у Слуцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, які пакінуў пасля чацвёртага курса ў 1924 годзе, і прыкладна год працаваў у рэдакцыі слуцкай акруговай газеты "Вясковы будаўнік") у абразку "Настаўнік" пісаў: *"У маленстве маім ёсць адна вельмі яркая дата. Недзе ў пачатку дваццатых гадоў у Слуцку, на Манастырычыне, на беразе рэчкі, я суняўся каля чалавека, які паволі адзяваўся, толькі што пакупаўшыся. Я стаяў і глядзеў на чалавека аж да таго часу, пакуль ён не пайшоў - яшчэ малады, з невялікімі вусікамі, здаецца, у саламяным капелюшы, з чорным пакамечаным партфелем. Пайшоў чалавек, а я не ведаў, як нарадавацца, што ўбачыў яго, - гэта быў Якуб Колас.*

*Да таго часу я ведаў Якуба Коласа толькі па кнігах, якія купляў як мог і дзе мог. Гэта былі часамі вельмі ўжо зачытаныя кнігі, з паабдзіранымі вокладкамі, з паразрыванымі лістамі; я перш за ўсё склейваў іх, папраўляў, як нешта самае дарагое. Звычайна ў іх пісалася пра беднага гаротнага чалавека і пра пошукі шчасця. Я чытаў і перачытваў гэтыя кніжкі па некалькі разоў - без канца. Які харошы, шырокі, прывабны і поўны хвалявання быў свет ад тых кніжак - простых, напісаных моваю, самаю блізкаю сэрцу! Як уздымалі, трывожылі душу і некуды звалі гэтыя кніжкі! Як хацелася любіць чалавека і нешта рабіць дзеля яго! І, можа, ад тых дарагіх старонак я сам злажыўся пісаць..."*.

Некаторы час паэт жыў не ў Слуцку, а ў маёнтку Новы Двор. Пра яго ў пісьме ад 16 ліпеня Якуб Колас пісаў: *"Колькі слоў аб Новым Двары. Куток ціхі, вельмі ціхі. Пры маёнтку сад, у разоў чатыры большы, як у Якаўлеўцы. У садзе ёсць тры сажалкі. За садам цячэ рэчка. Праўда, рэчка не тое што Нёман. Але купацца ў ёй добра, бо на месце купання яна чыстая, мае пясчанае дно і ніякіх лопухаў, лотаці і другой расліннасці, якімі яна звычайна багата. Дарога ад дому абсаджана шыкарнымі клёнамі, і ў самы гарачы час дня там прахладна. Панскі дом вызначаецца прастатою стылю і разумным размеркаваннем пакояў. Каб мне прыйшлося строіць сабе дом, то я пастроіў бы сабе такі самы. У гэтай жа пасадзе маюцца тры бусловыя пасады, і штось незвычайна мілае, роднае чуваць у гэтым лёкату старых буслоў на гнёздах! За рэчкаю пачынаецца луг. Цяпер ідзе самая касавіца. На лузе вырастаюць штодзень новыя стагі. За лугам рассцілаецца даль, роўная, прыгожая, зліваючыся з небам..."*.

- Я працавала настаўніцай у школе, якая знаходзілася ў панскім доме, - расказвала аўтару гэтых радкоў ураджэнка вёскі Новы Двор Лідзія Станіславаўна Казлоўская. - Памятаю тыя пакоі, у якіх жыў Якуб Колас. А ў садзе, пра які ён пісаў, раслі і "слуцкія бэры", і "паненкі", і "малгажаткі". Мы лазілі ў той сад па грушы, калі малыя былі. Цяпер ад таго саду нічога не засталося, няма і панскага маёнтка, які разабралі некалькі гадоў таму. Сажалкі заплылі, толькі старэйшыя жыхары вёскі памятаюць пра іх.

Значна змянілася за гэты час рэчка, шыкарных клёнаў ужо не знойдзеш. На жаль, у нашы дні нічога не напамінае ў Новым Двары аб тым, што тут некалі жыў народны паэт Беларусі Якуб Колас.



**_Будынак (сучасны выгляд), у якім Якуб Колас працаваў выкладчыкам на настаўніцкіх курсах_**



**_Дом (да нашага часу не захаваўся) у вёсцы Новы Двор, у якім жыў Якуб Колас у 1923 годзе_**

Захаплялі яны ўсё.
Дык успомні час мінулы,
Годзі, годзі, браце, спаць





Па прыведзеных вытрымках з пісьмаў Якуба Коласа можна меркаваць, што Случчына, яе маляўнічыя краявіды, яе жыхары запалі ў душу паэта, зрабілі на яго самыя лепшыя ўражанні. Ва ўсякім разе, калі ў паэме "Новая зямля" Якуб Колас расказвае пра паездку Міхала і Антося на агледзіны новай гаспадаркі, ён надзвычай цёпла піша пра наш край:

*Прад імі Случчына ляжала,*
*Старонка міла і багата.*
*Народ, відаць, жыў панавата,*
*Прынамсі, добра і заможна,*
*Па ўсім аб гэтым*
*судзіць можна:*
*Па ветраках, такіх удумных,*
*І па абэржах* гэтых, гумнах,*
*Па старасвецкіх азяродах,*
*Па гарбузах на агародах,*
*Па тытуню і па садочках,*
*Дзе хаты ніклі, бы ў вяночках.*
*А тыя ліпы ці таполі!*
*Такіх не бачылі ніколі:*
*Развіслы, тоўсты, сакавіты,*
*Гамоняць з небам -*
*паглядзі ты!*
*За многа вёрст здалёк відаць.*
*- Ну, дрэвы! нечага сказаць;*
*Зямля, брат, сілы многа мае -*
*Такія вежы выганяе!*
*А роўнядзь, роўнядзь!*
*як далоні! -*
*Міхал зазначыць ці Антоні:*
*- Эх, брат, зямля:*
*ўміраць не трэба,*
*Не пашкадуе табе хлеба.*
*Ўсё прыцягала іх увагу:*
*Ці ўстрэнуць*
*родную сярмягу -*
*І людзі простыя так ветлы,*
*І погляд добры іх і светлы*
*Так да душы і пранікае*
*І сэрца цешыць і ласкае;*
*Ці хутарочак пападзецца,*
*Ну, як знаёмы, усміхнецца!*
*Ці гэта вёска з ветракамі*
*І з прыдарожнымі крыжамі, -*
*Ўсё так павабна,*
*так адметна,*
*І ўсё вітала іх прыветна,*
*Бы тая блізкая радня.*

*Абэржа - вялікая будыніна для гаспадарчых патрэб.

Заўважылі, колькі ў гэтым урыўку з паэмы клічнікаў і прыметнікаў, якімі захапляльнымі словамі паэт апісвае тое, што бачылі Міхал і Антось на Случчыне? Згадзіцеся, што проста так, ад нечага рабіць не мог іх выкарыстоўваць вялікі знаўца роднай мовы Якуб Колас.

Але мала хто, напэўна, ведае, што слуцкі перыяд хоць і быў непрацяглым у жыцці Якуба Коласа, ды ледзь не сыграў у яго лёсе трагічную ролю. Справа ў тым, што ў жніўні 1925 года ў Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (ДПУ) Беларусі паступілі паведамленні аб тым, што ў ваколіцах вёсак Селішча і Еўлічы (Слуцкі раён), Дарасіно (Любанскі раён) на тэлеграфных слупах былі расклееныя контррэвалюцыйныя адозвы, напісаныя на беларускай мове друкаванымі літарамі. Адна з іх, напрыклад, была такога зместу: *"Таварышы, раней нас душыў пан, а цяпер душыць бальшавік. Сяляне, годзі вам спаць! Прачнецеся! Годзі езьдзіць на вашым карку жыдам. Скіньце ўсіх! Збудуйце свой уласны кут! Зрабіце Беларусь вольнай! Зрабіце сваю ўладу, а не жыдоўскую. Аб'ядынайцеся родныя браты сяляне! Паўстаньце!"*. Іншыя адозвы зямшчалі такі тэкст: *"Бальшавікі грабуць наш хлеб... Усюды - ашуканства. Наша дабро грабаюць у сваю кішэню! Нас ашукалі. Дык вон ашуканцаў! Селяне! Неплацеце падаткаў! Гуртуйцеся цэлымі вёскамі і не плацеце!.. Савецкая ўлада натравіла суседа на суседа, брата на брата, каб вы не верылі адзін другому і не згаварыліся проці ўлады. Селяне! Кіньце сварыцца! Арганізуйцеся ў хаўрусы сялян! Ваш вораг ня сусед, а - бальшавікі! Зноў турмы запоўнены селянамі за падаткі і інша пад'обнае! Зноў селянін павінен зьнімаць шапку прад савецкім панам і нясьці яму хабар! Далоў новых паноўкамуністаў! Ня верце брахні камуністаў! Яны вас ашукалі і далей будуць ашукваць!.. Нас сілком падзялілі. Адну частку Беларусі душыць польскія паны, а другую - маскоўскія бальшавікі! Нашаю пакутнаю працаю кормяцца ўсе! Далоў ашуканцаў! Далой новых паноў-камуністых! Далоў усіх нашых дармаедаў! Няхай жыве праўда! Няхай жыве вольная злучная Беларусь! Арганізуйцеся!"*.

Супрацоўнікам ДПУ не склала вялікай цяжкасці вылічыць "контррэвалюцыянераў", і неўзабаве яны арыштавалі жыхара вёскі Панічы (Слуцкі раён) Міхася Дземідовіча, нядаўняга слухача Слуцкіх агульнаадукацыйных курсаў, і настаўніка з мястэчка Пагост (Салігорскі раён) Ціта Курбыку. Пры вобыску ў Дземідовіча чэкісты звярнулі ўвагу на чарнавік яго пісьма на імя Ціта Іванавіча Курбыкі, у якім былі такія словы: *"Асяродкам Пагоскай арганізацыі па шчыра-беларускаму шляху павінны стаць Вы, як у Слуцку - Лістапад з усім настаўніцтвам і вучнёўствам (агітацыя сярод сялян можа скрытна рабіцца вучнямі), у Мінску і на ўсёй Беларусі - асяродак усяму Колас!..".*

Праз некалькі дзён чэкісты арыштавалі настаўніка Юрыя Лістапада і навучэнца агульнаадукацыйных курсаў Мікалая Казака. У Лістапада, які ў 1920 годзе ўдзельнічаў у Слуцкім збройным чыне, у час вобыску знайшлі фатаграфію Якуба Коласа, часопіс "Вольная Беларусь" за 1918 год, у Казака - часопіс "Наша Слова" антысавецкага зместу. "Запахла" гучнай контррэвалюцыйнай справай, ды яшчэ з удзелам не абы-каго, а самога Якуба Коласа.

На мінскай кватэры паэта зрабілі ператрус, пра які тагачасны супрацоўнік органаў дзяржаўнай бяспекі, а пазней - пісьменнік Віталь Вольскі ўспамінаў: *"Канстанцін Міхайлавіч сустрэў нас так, быццам даўно чакаў. Ніякага здзіўлення, ніякага сполаху на твары... Я адразу папрасіў у Канстанціна Міхайлавіча тое, што найбольш цікавіла нас, - перапіску. Гаспадар, ні слова не кажучы, адчыніў шуфляду стала, дастаў з яе і працягнуў нам стосік акуратна складзеных лістоў. Я ўважліва перагледзеў іх, пакінуў сабе тыя, што маглі зацікавіць следства, астатнія, гэтак жа акуратна склаўшы, вярнуў гаспадару.*

*- Гэта ўсё? -* спытаўся *Канстанцін Міхайлавіч зусім спакойна. Хаця ў паглядзе яго адчуваўся адбітак унутранай стомы. Мне стала ніякавата пад гэтым поглядам. Быццам я зрабіў толькі што нейкую не дужа чыстую справу".*

Сярод папер, якія забралі чэкісты, было і адрасаванае Якубу Коласу пісьмо слуцкага настаўніка Нічыпара Мяцельскага з вершам пад назвай "Дзе?":

*Дзе свабодны дух народа?*
*Дзе свабодных думак рой?*
*Дзе жаданьне*
*стаць сьцяною, -*
*За свабоду ісьці ў бой?*
*Дзе жаданьне скінуць путы*
*Ўціску вечнай цемнаты...*
*І дзе ўсё гэта пакінуў,*
*Беларускі народ - ты?*
*Воля зьнішчана да званьня;*
*Зноў сагнуўся ў цябе стан,*
*І ўсякі валацуга*
*Над тваею воляй пан.*
*А нядаўна гэтак слаўна*
*За свабоду нёс жыцьцё.*
*Крыкі - гоман расхадзілісь,*
*Захаплялі яны ўсё.*
*Дык успомні час мінулы,*
*Годзі, годзі, браце, спаць.*
*За свабоду і лепшу долю*
*Пойдзем ворагаў змагаць!*

На другі дзень пасля ператрусу Якуба Коласа выклікалі на допыт у ДПУ Беларусі. Знаёмства з Лістападам паэт пацвердзіў, але катэгарычна заявіў: *"С Листопадом на политические темы разговоров никогда не было и мне совершенно неизвестно об антисоветской деятельности Листопада... Я ни в каких политических организациях при Совввласти не состоял и не состою. Я этим совершенно не интересуюсь..."*. Што ні кажыце, а дарэвалюцыйны вопыт паводзін сябе з царскімі следчымі, здаецца, прыгадзіўся Якубу Коласу. Бо інакш чым растлумачыць, што пасля катэгарычнага *"я этим не интересуюсь"* паэт сказаў (вымушаны быў сказаць?): *"Произведённый у меня обыск ГПУБ 24 октября 1925 г. считаю вполне законным и необходимым, т. к. у ГПУБ для этого было достаточно материалов, хотя бы даже тех, которые мне были предъявлены. ГПУ иначе не могла поступить. У меня нет никаких доказательств к опровержению материалов, предъявленных мне, но я приму все меры реабилитироваться"*. Цікава, ці не праўда? З аднаго боку - *"не интересуюсь"*, а з другога - *"приму все меры реабилитироваться"*. Дзядзьку Якуба на мякіне, як кажуць, не правядзеш.

Тым часам чэкісты не бяздзейнічалі: 26 кастрычніка яны арыштавалі настаўнікаў Нічыпара Мяцельскага і Міхася Макарэню. У Макарэні яны знайшлі часопіс "Наша Слова", дзве адозвы, падобныя на тыя, што былі расклееныя на слупах у жніўні, зашыфраваныя допісы, розныя пісьмы, адрасы, сярод якіх - і адрас Якуба Коласа. Арыштаваных трымалі ў турме ў Мінску, неаднаразова дапытвалі. Паказанні случчан нярэдка былі супярэчлівымі, таму следчым давялося з імі павалуздацца, пакуль справу давялі да суда.

Яшчэ на адзін допыт выклікалі і Якуба Коласа. Аднасна верша Н. Мяцельскага "Дзе?" паэт сказаў начальніку сакрэтнага аддзела ДПУ Беларусі Рэмізаву, які вёў допыт 10 снежня: *"Точно сказать не могу, ответил ли я Метельскому письмом или передал ему на словах при встрече с ним осенью, что стихотворение по своим мотивам не новое, мотивы эти перепеты и по характеру своему народнические и по идеологии не современное"*. Паэт не адмаўляў, што сустракаўся з Нічыпарам Мяцельскім і хадайнічаў аб працаўладкаванні яго настаўнікам. З паказанняў Якуба Коласа следства мала што ўзяло, першапачатковыя абвінавачванні яго ў антысавецкай дзейнасці пацвердзіць не ўдалося. І калі "Лістападаўскую справу" ў сакавіку 1926 года разглядаў Мінскі акругова суд, паэт прысутнічаў на ім як сведка. Аднак і тут яго паказанні істотна не адрозніваліся ад ранейшых. Напрыклад, пра Мяцельскага ён сказаў, што гэта *"чалавек, які нечага шукае, хоча выявіць нешта, чаго яшчэ добра і сам не зразумеў, чалавек са слабою воляю, які яшчэ не афарміўся, хістаецца"*. Сапраўды, а чаму нельга так сказаць пра чалавека, якому толькі 20 гадоў?

Суд прыгаварыў Ю.І. Лістапада да пяці гадоў пазбаўлення волі са строгай ізаляцыяй і пяці гадоў паражэння ў правах. Н.Л. Мяцельскі, М.З. Макарэня і М.А. Дземідовіч таксама атрымалі па пяць гадоў пазбаўлення волі, але з улікам іх маладосці тэрмін пакарання быў зменшаны да двух гадоў пазбаўлення волі. М.М. Казаку суд назначыў пяць гадоў пазбаўлення волі, але з улікам яго маладосці пакаранне скарацілі на трэць, потым гэты тэрмін палічыў умоўным і з-пад арышту яго вызвалілі. Ц.І. Курбыку суд апраўдаў. Яшчэ доўга пасля гэтага суда Якуб Колас адчуваў на сабе падазрэнні ў прыналежнасці да арганізацыі "слуцкіх контррэвалюцыянераў" і эсэраўскага руху.

***Анатоль ЖУК,***
*жыхар горада Слуцка.*



***Якуб Колас (у цэнтры) з удзельнікамі слуцкай мастацкай самадзейнасці***

# Памёр Іван Яшкін



Мовазнавец **Іван Яшкін** памёр у Менску 23 кастрычніка ва ўзросце 83 гадоў.

Нарадзіўся ён у вёсцы Шаламы Слаўгарадскага раёна ў 1932 годзе. Ад 1959 - у Акадэміі навук. Кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Займаўся найбольш дыялекталогіяй і лексікалогіяй. Браў удзел у падрыхтоўцы фундаментальных слоўнікавых і лінгвагеаграфічных выданняў, сярод якіх "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" (1963), "Агульнаславянскі лінгвістычны атлас" (1964-1974), "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" у 5 тамах (1971-1998), "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (1977-1982), "Тураўскі слоўнік" (1982-1985).

Распрацоўваў навуковыя тэмы "Лінгвістычны атлас Еўропы" (1985-1990), "Усходнеславянскія ізаглосы" (1986-1991), "Слоўнік гаворак паўднёва-заходняй Віцебшчыны" (1986-1998), "Вывучэнне беларускіх, літоўскіх, польскіх і рускіх гаворак на тэрыторыі ўзаемадзеяння балтыйскіх і славянскіх моў" (1988-1990).

У ліку яго ных прац - "Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія" (1971), "Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм. Фанетыка" (1979), "Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў. Тапаграфія. Гідралогія" (2005). Выдаў кнігу "Грыбы ў традыцыйнай нацыянальнай кухні" з арыгінальнымі рэцэптамі, сабранымі за трыццаць год дыялекталагічных экспедыцый па беларускіх вёсках.

Кандыдат філалагічных навук Пятро Садоўскі, які ў 80-я гады быў з Іванам Яшкіным у некалькіх экспедыцыях на Палессі, успамінае яго як працавітага даследчыка беларускіх дыялектаў і лагоднага чалавека:

- Пры ўзгадцы яго імя ў мяне ўзнікаюць вельмі добрыя пачуцці. Ён так пражыў жыццё, што пра яго ніхто не можа сказаць кепскага слова. Ён быў вельмі ціхім чалавекам, які не ўлазіў ні ў якія канфлікты, быў вельмі рахманым і лагодным. Іван Яшкін быў працавіты як мурашка. Ён працаваў у сектары дыялекталогіі, даследаваў шмат якія рэгіёны, асабліва шмат зрабіў для даследавання Палесся. Я сам быў з ім у дзвюх экспедыцыях на Тураўшчыне, калі складаўся "Тураўскі слоўнік"...

***Паводле Радыё Свабода.***

# Культурнае жыццё вакол самага “культурнага” горада Беларусі

*Самымі культурнымі гарадамі Беларусі названы **Магілёў, Наваполацк** і **Ліда**, яны прызнаны пераможцамі рэспубліканскага конкурсу "Горад культуры ў Год культуры", паведамілі ў Міністэрстве культуры Беларусі.*

*Як адзначылі ў ведамстве, у рэгіёнах Беларусі рэалізуецца шмат цікавых праектаў, ёсць нямала самабытных гарадоў, дзе праводзяцца яркія фэсты, адраджаюцца народныя промыслы, дзейнічаюць экскурсійныя маршруты.*

*Конкурс "Горад культуры ў Год культуры" быў абвешчаны з мэтай вылучыць населеныя пункты Беларусі, якія ўнеслі найвялікшы ўнёсак у развіццё гэтай сферы, а таксама турызму. Па выніках конкурсу журы назвала лепшыя абласны цэнтр, горад абласнога падначалення, горад раённага падначалення, мястэчка гарадскога тыпу і аграмястэчка.*

*Так, у намінацыі "Лепшы абласны цэнтр" перамог **Магілёў**, "Лепшы горад абласнога падначалення" - **Наваполацк** Віцебскай вобласці, "Лепшы горад раённага падначалення" - **Ліда** Гарадзенскай вобласці.*

*Названы таксама "Лепшы пасёлак гарадскога тыпу" - гарадскі пасёлак **Кастрычніцкі** Гомельскай вобласці і "Лепшы аграгарадок" - аграгарадок **Моталь** Берасцейскай вобласці, паведамляе БЕЛТА.*

Багатымі на мерапрыемствы былі мінулыя выхадныя ў установе ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".

**Тарноўскі цуд**

У філіяле "Тарноўскі Дом культуры" адбыўся яблычны фэст "Тарноўскі цуд". Праграма мерапрыемства складвалася з дзвюх частак. У першай частцы мерапрыемства, якая праходзіла ў фае ўстановы культуры, наведвальнікі мелі магчымасць убачыць "яблычнае дэфіле" гатункаў яблык, якія растуць у Тарноўскім садзе і пачаставацца імі, а таксама паспытаць ласункі з яблык, якія прыгатавалі філіялы-суседзі: Першамайскі ДК, Мажэйкаўскі ДК, Мінойтаўскі ЦКіВЧ, Ваверскі ДК, Ёдкаўскі ДК, Гудскі ЦТіВЧ.

Прыгожа ўпісалася у святочны інтэр'ер выстава "Дары зямлі Тарноўскай". Шматлюдна было каля "Яблынькі пажаданняў", а дзеці з задавальненнем бавіліся на гульнёвай пляцоўцы "Яблычак наліўны".

Другая частка мерапрыемства была прысвечана дзесяцігоддзю Тарноўскага саду, дзе ўшаноўваліся лепшыя работнікі. Прысутнічалі старшыня Роўба П.Ф. і іншыя прадстаўнікі адміністрацыі гаспадаркі ЛРСУП "Мажэйкава". Узрушальны момант быў, калі гледачы ў зале стоячы віталі былога старшыню гаспадаркі Рахатку К.В., пры якім і быў закладзены сад.

Канцэртную праграму стварылі: народны ансамбль бытавых інструментаў "Кахачка" Мажэйкаўскага ДК і калектывы аматарскай творчасці Тарноўскага ДК, дзе таксама прысутнічала "яблычная" тэматыка. А ўсе складзеныя вершы пра яблыкі напісала кіраўнік Тарноўскага ДК Святлана Антонік.

Наогул, мерапрыемства атрымалася творчым, яскравым і запамінальным.





**Жанчына года**

Шмат прыгажосці і таленту ўбачылі жыхары аграгарадка Дзітва ў суботу, дзе прайшла конкурсная шоў-праграма "Жанчына года - 2016". Удзельніцам прыйшлося вытрымаць шэсць іспытаў: візітоўка, кулінарная асалода, зорны канцэрт, а таксама дэфіле ўсёй сям'ёй, у вячэрняй сукенцы і "чорная пантэра". Па выніках усіх іспытаў Алеся Касцюкевіч атрымала тытул "Місіс артыстычнасць", Ганна Жолудзь - тытул "Місіс абаяльнасць", Эла Гурнач - "Місіс элегантнасць", Іна Шылкоўская - тытул "Місіс арыгінальнасць". Галоўны тытул - "Жанчына года - 2016" атрымала Наталля Мельнікава.

Удзячныя гледачы разыходзіліся ўпэўненыя, што на свята прыгажосці работнікі Дзітвянскага Дома культуры хутка запросяць ізноў.

**Абрад "Жаніцьба Коміна"**

Этнапраект "Абрады маёй краіны", які стартаваў напачатку года ў ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці", завяршыўся ў бягучым годзе абрадам "Жаніцьба Коміна", прадстаўленым Ганчарскім Домам культуры ў форме вячорак. Вытокі гэтага свята - пакланенне духу продкаў агню-багачу. Светлы дзень скарачаўся. Пачынала рана цямнець і трэба было выконваць працу пры лучыне, але зрабіць гэта можна было толькі пасля "Жаніцьбы Коміна". А жанілі Комін з Працай. Гаспадар Васіль Дымовіч і гаспадыня Святлана Шмукста гасцінна запрашалі вяскоўцаў і гасцей (фальклорны гурт "Ігнаткаўскія весялухі") ў хату, у якую з добрым густам ператварылася глядзельная зала. На ложку ляжала "лесвіца" падушак у вышываных наўлечках. Дзяружкі, посцілкі, ручнікі, якія вырабілі мясцовыя майстрыхі: Тацццяна Кудла, Ева Бірук, Марыя Кучынская прывабілі позіркі прысутных. З пабеленага гіпсакартону печ выглядала, як сапраўдная. Тканыя ходнікі на падлозе дабаўлялі вясковага каларыту. Галоўны атрыбут - бутафорскі Комін (дарэчы, як і ў нашых продкаў) быў упрыгожаны барвінкам. Дзея пачыналася з дабраславення гаспадаром Коміна на жаніцьбу. Пасля прачытання сталай жыхаркай Таццянай Іванаўнай Кудла малітвы "Ойча наш" гаспадар пасвянціў Комін, а затым непасрэдна пачалася "жаніцьба". Спачатку запалілі агонь, а затым вадзілі карагоды з абрадавымі песнямі. Удзельнікі аматарскага аб'яднання "Ульяніца" пасыпалі Комін семкамі гарбузоў. Бо агонь трэба ўсхваляць, каб білы ад яго не ведаць. Агонь ачышчае, духам продкаў дапамагае.

Без сумнення, усім прысутным удалося дакрануцца душой і сэрцам да часцінкі таго, што некалі было дарагім для нашых продкаў, і ўжо іншымі вачыма мы будзем глядзець на такія звыклыя для нас рэчы.

***Ганна Некраш**,*
*вядучы метадыст ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".*

# ЗОРНЫ ЧАЛАВЕК

**Алесь Анатольевіч Марчанка** нарадзіўся 14 снежня 1979 года ў Магілёве.

У 1985 годзе пачаў вучыцца ў СШ № 35. Матуля-Вольга Аляксееўна (1945 г.н) і тата Анатоль Якаўлевіч (1939 г.н.) шмат ўвагі надавалі выхаванню Алеся і брата Ігара, які зараз жыве ў Расіі (Тула).

Хлопец у школьныя гады наведваў Палац піянераў. У тыя гады вялікі ўплыў на яго зрабілі педагогі: Тамара Аношка, Ала Іванаўна Куснова, а таксама Лілея Міхайлаўна Кузьменка...

Малады чалавек пасябраваў з Ірынай Ядзьвінскай (акторка малога тэатра ў Маскве). У СШ 35 вучыўся ў хіміка-біялагічным класе. Пасля школы Алесь паступіў на падрыхтоўчае аддзяленне ў БДУКіМ. Шэсць год вучыўся па спецыяльнасці "рэжысура". У РТБД працуе з 2000 г.



У 2002 годзе скончыў курс Валерыя Анісенкі. Алесь з 2009 года узначаліў цэнтр беларускай драматургіі, якім у 2007 - 2009 гг. кіравала Хрысціна Смольская. У 2010 г. быў куратарам і рэжысёрам праекту "Пантон. Беларуска-нямецкія тэатральныя сустрэчы" (сумесны праект Інстытута імя Гётэ ў Менску і Цэнтра беларускай драматургіі і рэжысуры). У лістападзе 2015 года ўзначальваў штаб II Маладзёжнага тэатральнага форуму краін СНД, Балтыі і Грузіі.

Алесь Анатольевіч належыць да новага пакалення рэжысёраў. Яго першая роля як актора - *дзядзі Якава* ў "Апошіх" М. Горкага. Быў таксама спектакль "Макбет", дзе ён іграў *Макдуфа*. Спектакль ставіў Валеры Данілавіч Анісенка. Таксама удалай лічыцца роля *Паніча* ў спектаклі "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы... (Асабіста мне вельмі спадабаўся *"чорт"* у спектаклі "Адамавы жарты" ў апрацоўцы Святланы Навуменкі). Актор сыграў 15 роляў. Цэнтр, які ўзначальвае творца, робіць майстар-класы для драматургаў! А яшчэ ёсць ў яго выкананні *Максім Багдановіч* у "Дзённіку паэта" Віталя Баркоўскага, *Муж* у спектаклі "Ліфт" Юліі Чарняўскай, *Аляксей* у спектаклі "Дажыць да прэм'еры", роля *актора Самойлава* ў спектаклі "Белы анёл з чорнымі крыламі", роля *медыюма Альберта* ў спектаклі "Ціхі шэпт сыходзячых крокаў". У спектаклі "Чарнобыльская малітва" (С. Алексіевіч пастаноўка Б. Бусаголя, драматург і каардынатар праграмы - В. Сіманьек (Францыя), рэжысёр - заслужаны дзеяч мастацтваў В. Анісенка) сыграў роль *"Мясцовага жыхара"*.

Часта Алесь ездзіць да родных у Магілёў. Падарожнічаў амаль па ўсіх краінах Еўропы. Маладому чалавеку вельмі падабаецца Германія і нямецкая тэатральная школа, а таксама такія краіны як Славенія і Партугалія.

Спадар Алесь мае звычку маляваць планы і мець надзею, што можа іх рэалізаваць!

***Аляксей Шалахоўскі**,*
*гісторык мастацтва.*




Можна знайсці ў сядзібе ТБМ.

Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Адрас рэдакцыі:
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: naszaslowa@tut.by

Рэдакцыйная калегія:
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/
http://nashaslova.mns.by/

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.
Рэдакцыя рукапісы не вяртае.

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі “Выдавецкі дом ТБМ”.
Газета падпісана да друку 31.10.2016 г. у 17.00. Замова № 2570.
Аб’ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 1,06 руб., 3 мес.- 3,18 руб.
Кошт у розніцу: па дамоўленасці.